**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 11 (727) 13 сакавіка 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by















## “Вы нашы самыя цудоўныя на свеце”

*Працяг тэмы на стар.4.*

*Фота Ул. Скрабатуна.*

## Беларусь падтрымлівае адмену роўмінгу ў Мытным саюзе

У Беларусі ўлады гатовыя падтрымаць адмену роўмінгу ўнутры краін-удзельніц Мытнага саюза. Начальнік упраўлення абароны правоў спажыўцоў і кантролю за рэкламай мінгандлю Беларусі Ірына Барышнікава адзначыла 11 сакавіка, што адмена роўмінгу ў Мытным саюзе можа стаць яшчэ адным крокам у галіне абароны правоў спажыўцоў.

“Мы лічым, што адмена роўмінгу дазволіць значна скараціць выдаткі спажыўцоў”, - сказала Ірына Барышнікава, перадае Soyuz.by.

Ірына Барышнікава таксама адзначыла працягласць працэсаў абмеркавання і прыняцця новых праектаў у Мытным саюзе, прывёўшы ў прыклад мытныя рэгламенты.

Як паведамлялася, Еўразійская эканамічная камісія прапрацоўвае пытанне аб магчымасці адмены роўмінгу на тэрыторыі Мытнага саюза. У ФАС Расіі заявілі надаўна, што гэтае пытанне абмяркоўваюць эксперты.

***telegraf.by.***

Аршанскі раён

# Адліга для бізнесу?

■ Станіслаў Раманчук

**Няпростая сітуацыя ў беларускай эканоміцы прымусіла кіраўніцтва краіны пайсці на стварэнне больш свабоднага бізнес-клімату для прадпрымальных людзей.**

Аб гэтым шмат гаварылася на выязным семінары-нарадзе па развіцці малога і сярэдняга прадпрымальніцтва, якія былі праведзены ў Аршанскім раёне. Яго работай кіраваў віцэ-прэм'ер урада Пётр Пракаповіч і зрабіў там шэраг важных заяў. Перад пачаткам пленарнага пасяджэння яго ўдзельнікі пабывалі на найбольш паспяховых прыватных фірмах. У горадзе-спутніку Барані ўсім спадабаўся патэнцыял фірмы "ДжыВіЭйлайтынг", які спачатку выпускаў 5 мадэляў свяцільнікаў, а цяпер ужо паўтары тысячы розных асвятляльных прыбораў, у тым ліку і для новенькай "Чыжоўкі-Арэны". Прыватнікі з прадпрыемстваў "Белама Плюс" і "Орбіс" пачалі выпускаць інавацыйную прадукцыю, якая ідзе і за мяжу. Сталічныя госці прыйшлі ў захапленне і ад мясцовай аграсядзібы "Сябры і К", а ўвогуле на Віцебшчыне, як вынікала з падрыхтаванай выставы прадукцыі малога бізнесу, толькі летась было ім атрымана на аднаго занятага тут па 27 млн. рублёў прыбытку. У гэтай сферы ў Прыдзвінні занята між іншым ужо 154 тысячы чалавек. Ды і ў цэлым па краіне, як падкрэсліў віцэ-прэм'ер, малы бізнес даў ужо амаль чвэрць ВУП Беларусі. Пётр Пракаповіч зрабіў на Аршаншчыне шэраг важных заяў, што для прадпрымальнікаў аблегчаць доступ да фінансавання, у тым ліку і ў замежнай валюце. Дзелавым людзям нарэшце могуць дазволіць наймаць на працу і работнікаў, якія не з'яўляюцца членамі іх сем'яў, што дагэтуль не дазвалялася.

Пастаўскі раён

# Рост, які не радуе

■ Кастусь Александровіч

**У адрозненне ад большасці сельскіх раёнаў вобласці, Пастаўскі мае і даволі значны прамысловы патэнцыял.**

Тавары ад мясцовых вытворцаў адгружаюцца больш чым у 20 краін свету і толькі летась адсюль было пастаўлена на экспарт прадукцыі на 36,3 млн. долараў. Найбольш буйнымі экспарцёрамі сталі прыватны Пастаўскі мэблевы цэнтр і малочны завод, усё больш вырабаў адгружае за мяжу і прадпрыемства "Паставымэбля". А вось эфектыўнасць гаспадарання астатніх выклікае заклапочанасць, хоць летась, як адзначалася на адным з пасяджэнняў райвыканкама, было выраблена на 50 млрд. рублёў болей валавай прадукцыі, чым у 2012 годзе. У гэтым годзе зімой рост вытворчасці прадоўжыўся, аднак праблем толькі прыбавілася. Калі па выніках года ў раёне было толькі 3 стратныя суб'екты гаспадарання, то цяпер іх стала 12. У большасці вытворцаў назіраецца нават дэфіцыт асноўных фондаў, яны закрэдытаваныя. У прадпрыемства меліярацыйных сістэм і льнозавода ўзніклі цяжкасці нават з выплатай заробкаў. Сітуацыя ў сельскай гаспадарцы буйнога раёна яшчэ больш цяжкая, паколькі даўгі калгасаў набліжаюцца ўжо да 700 млрд. рублёў. Да мяжы банкруцтва падышлі райаграсервіс, ААТ "Андроны" і "Блакітныя азёры". Толькі тры гаспадаркі краю трымаюцца на плыву, а астатнія ледзь зводзяць канцы з канцамі. У іх няма сродкаў на выплаты ў пенсійны фонд, на аплату электраэнергіі і там не ведаюць, як жыць далей.

Полацкі раён

# У паскораным рэжыме

■ Чэслаў Якубовіч

**Амаль год назад падчас моцнай паводкі прарвала дамбу на будаўнічай пляцоўцы Полацкай ГЭС. Аднак наступствы здарэння ліквідавалі аператыўна і зараз нічога аб гэтым не нагадвае.**

На гэтым складаным аб'екце цяпер работы вядуцца днём і ноччу, бо адзін толькі гідравузел будучай гідраэлектрастанцыі займае плошчу 18 гектараў. Для станцыі днямі сталі паступаць з Украіны вельмі буйныя металічныя канструкцыі вагой да 20 тон і даўжынёй 20 метраў кожная для плаціны будучай ГЭС магутнасцю да 112 млн/кілават гадзін электраэнергіі за год. На працягу года з суседняй краіны паступіць нават 80 чыгуначных платформ, а першую партыю габарытнага груза даставілі напрыканцы зімы. Спецыяльны аднаўленчы поезд Беларускай чыгункі з надзвычай магутным кранам перагрузіў затворы і шарнірныя апоры для плаціны ГЭС на спецтэхніку, якая і даставіла груз на будпляцоўку. Асноўнае энергетычнае абсталяванне фірмы "Мавель" паступіць сюды з Чэхіі. У асноўным на важным энергетычным аб'екце заняты беларускія будаўнікі высокай кваліфікацыі. Работы на ГЭС ідуць па графіку, а Полацкая ГЭС можа быць гатова да эксплуатацыі ў наступным годзе. Дарэчы, яна стане першай з каскаду ГЭС, бо на рацэ Заходняя Дзвіна запланавана ўзвесці яшчэ 3 меншыя ГЭС у Верхнядзвінскім, Бешанковіцкім раёнах і паблізу абласнога цэнтра. Сама ж водная артэрыя пасля гэтага стане поўнасцю судаходнай.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 13.03.14 | | | | Пятніца 14.03.14 | | | | Субота 15.03.14 | | | | Нядзеля 16.03.14 | | | | Пн.17.03.14 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +1 | +2 | +10 | +4 | 0 | +2 | +10 | +3 | +3 | +5 | +6 | +2 | -2 | -2 | +2 | -2 | -3 | -2 | +1 |
| Ціск | 752 | 752 | 749 | 748 | 745 | 743 | 744 | 744 | 739 | 731 | 723 | 718 | 723 | 729 | 731 | 734 | 733 | 731 | 729 |
| Вільготнасць | 70 | 81 | 48 | 73 | 72 | 80 | 45 | 63 | 85 | 93 | 80 | 80 | 81 | 82 | 59 | 69 | 76 | 81 | 77 |
| Вецер м/сек | 4 | 4 | 6 | 3 | 4 | 6 | 9 | 3 | 5 | 7 | 7 | 5 | 12 | 7 | 10 | 4 | 3 | 3 | 2 |
| | З | З | З | З | З | З | С-З | З | Ю-З | Ю-З | Ю-З | Ю-З | С-З | С-З | С-З | З | З | Ю | Ю-В |

# Аб самым надзёным

## МІЖНАРОДНАЯ ІЗАЛЯЦЫЯ І ПАГАРШЭННЕ ЭКАНАМІЧНАЙ СІТУАЦЫІ Ў РАСІІ МОЖА НЕГАТЫЎНА АДБІЦЦА І НА НАС



■ Аляксандр Цішкевіч

**Для беларусаў добрыя адносіны з украінцамі – вельмі важныя, паколькі мы гандлюем з імі ў плюс, а аб'ёмы ўзаемнага таваразвароту перавышаюць 7 мільярдаў долараў. А вось на прасторах Расіі цяпер няпроста, адзін толькі дзень вострага супрацьстаяння з Украінай абышоўся ў 2 трыльёны рублёў, што даражэй усіх расходаў на Алімпіяду.**

Калі нехта думае, што чарговы вельмі востры канфлікт паміж нашымі суседзямі – Украіны з Расіяй беларусаў не закране, то ён глыбока памыляецца. Дайшло да небывалага ў ХХІ стагоддзі: дзве вялікія славянскія дзяржавы апынуліся на мяжы братазабойчай вайны. Дарэчы, на гэты раз беларускае кіраўніцтва паступіла з гэтай нагоды разумна. Спачатку А. Лукашэнка выказаўся ў падтрымку тэрытарыяльнай цэласнасці Украіны, а потым практычна тое самае сказаў падчас свайго рабочага візіту ў Літву і кіраўнік Міністэрства замежных спраў Беларусі У. Макей.

Для расійскай правячай эліты гэта не стала нечаканасцю, бо яны ведалі, што прамаўчыць і яшчэ адзін іх партнёр Казахстан. Адкрыта расійскія эксперты гавораць, што на міжнароднай арэне ў іх няма саюзнікаў. А вось заява Кітая ў ААН наконт сітуацыі з Украінай, на якога расіяне спадзяваліся, была для РФ балючай. Нават кітайцы заявілі, што яны супраць унутранага ўмяшання ва ўнутраныя ўкраінскія справы. А перад гэтым 28 лютага падчас прэс-канферэнцыі беглага былога карумпаванага правадыра "сіне-блакітнай" Віктара Януковіча снайперы і спецназ 810-й брыгады Чарнаморскага флота РФ сталі ўжо блакіраваць украінскіх пагранічнікаў.

Праўда, тады гучала публічная заява В. Януковіча аб тым, што ён не збіраецца звяртацца да Расіі за ваеннай падтрымкай. Аднак, калі стала відавочна, што разлікі РФ на ваенны бліцкрыг у Крыме праваліліся, то рускім патрабавалася захаваць добрую міну пры дрэннай гульні. І вось 4 сакавіка з'явілася заявы ў Расіі, якая адна працягвае прызнаваць старую ўкраінскую ўладу, што менавіта В. Януковіч папрасіў Крэмль увесці войскі на ўкраінскія землі. Між тым, новага ўкраінскага прэм'ера, 39-гадовага юрыста А. Яцанюка запрасілі наведаць надзвычайны саміт ЕС, што азначае, каго прызнае Еўрасаюз услед за ЗША і астатнім светам у якасці афіцыйнай улады.

На дадзеным этапе, хоць сітуацыя застаецца вельмі трывожнай і напружанай, відавочна, што планы геапалітычнага рэваншу Масквы сарваліся. Для разумнага чалавецтва (на жаль, многія замбіраваныя беларусы сюды не ўваходзяць) зразумела, што расійскія войскі незаконна ўвайшлі на тэрыторыю Украіны з прычыны быццам абароны рускамоўнага насельніцтва. Аб многім гаворыць той факт, што паўбандыцкія новыя "ўлады" Крыма адмовіліся, каб паўвостраў наведала незалежная міжнародная пасрэдніцкая місія Савета бяспекі ААН. Аб іншых драматычных падзеях чытачы ведаюць з розных крыніц і нават адыёзныя беларускія тэлевізіёншчыкі аказаліся больш сумленнымі, чым праплачаныя і хлуслівыя расійскія дзяржтэлеканалы, якія ўключыліся ў інфармацыйную вайну па гебелеўскіх рэцэптах.

Застаецца спадзявацца, што нежартоўныя страсці вакол Украіны неўзабаве сціхнуць. Беларусам свае інтарэсы трэба захоўваць, а каму так мілая Расія, хай туды едуць, бо і пашпарты з гербам РФ і расійскае грамадзянства атрымаюць па спрошчанай працэдуры, і працы на бяскрайніх расійскіх прасторах хоць адбаўляй. Для беларусаў добрыя адносіны з украінцамі – вельмі важныя, паколькі мы гандлюем з імі ў плюс, а аб'ёмы ўзаемнага таваразвароту перавышаюць 7 мільярдаў долараў. А вось на прасторах Расіі цяпер няпроста, адзін толькі дзень вострага супрацьстаяння з Украінай абышоўся ў 2 трыльёны рублёў, што даражэй усіх расходаў на Алімпіяду.

З РФ пачаў уцякаць капітал, рухнулі фондавыя рынкі, абвалілася расійская нацвалюта, сталі расці цэны на харчаванне і імпартныя тавары. Няма на расійскіх прасторах і эканамічнага росту, але рускія працягваюць распальваць усяляк хваляванні ва Украіне, правялі "гульню ваеннымі мускуламі". Нам трэба з Расіяй гандляваць, болей туды прадаваць сваіх тавараў і нарэшце карміць іх беларускім малаком і мясам. Пакуль добра, што пасля леташняй "калійнай вайны" мы змаглі заключыць шэраг кантрактаў на пастаўкі калійных угнаенняў, канкуруючы з "Уралкаліем".

## Дзень за днём

**Непрыкрытая агрэсія Крамля супраць Украіны прывяла да міжнароднай ізаляцыі Расіі, пачалася новая “халодная вайна”. Анамальная зіма прывяла да гібелі амаль паловы азімага рапсу і пшаніцы, іх прыйдзецца перасяваць вясной. Конкурс на прадстаячых выбарах мясцовых Саветаў дэпутатаў складзе толькі 1,2 чалавека на месца.**

**У пачатку вясны для беларусаў зноў падаражэлі асобныя маркі цыгарэт. Напярэдадні сяўбы калгасы завінавацілі толькі “Белнафтахіму” 1,2 трлн. рублёў за паліва, угнаенні і шыны. Да канца сакавіка ў Мінску адкрыюць яшчэ 8 новых гасцініц, з 1-га красавіка там не будзе больш папяровых праязных білетаў на грамадскі транспарт.**

# Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** Генсек НАТА А. Расмуссен прама заявіў, што агрэсіўныя ваенныя дзеянні Расіі ва Украіне выклікаюць пагрозу міру і бяспецы ва ўсёй Еўропе насуперак статуту ААН.

**Расія.** Была дарадца прэзідэнта РФ А. Іларыёнаў заявіў, што авантура У. Пуціна ва Украіне правалілася, украінцы згуртаваліся, як нацыя перад абліччам знешняга ворага.

**Венесуэла.** З-за росту цэн амаль на 60 % і пустых полак магазінаў па краіне ідуць масавыя акцыі пратэсту, у ходзе хваляванняў былі забіты і паранены ўжо сотні чалавек.

**Расія.** У адносінах Украіны РФ паводзіць сябе яшчэ больш нахабна, дала прытулак бегламу В. Януковічу, узмацніла “інфармацыйную вайну”, фактычна захапіла сілай Крым.

**ЗША.** Памылкай лёсу з боку Расіі, як заявіла памочнік прэзідэнта па пытаннях бяспекі Сьюзан Райс, стане, калі яна рашыцца адправіць свае ваенныя сілы ў рэгіёны Украіны.

**Украіна.** Падзенне паўсюдна “ленінскіх ідалаў”, як заявіў мітрапаліт Чаркаскі і Канеўскі Сафроній, засведчыла аб адмаўленні ўкраінцаў ад бязбожнага камуністычнага мінулага.

**Расія.** Супраць агрэсіі РФ ва Украіне выступілі экс-дарадца прэзідэнта А. Іларыёнаў, народныя артысты А. Макарэвіч, Ю. Шаўчук, Б. Грэбеншчыкоў, Земфіра, М. Жванецкі.

**Польшча.** Сапраўдныя намеры Расіі, як заявіў прэм’ер-міністр Дональд Туск, пакажуць яе паводзіны наконт умяшання ў сітуацыю ў Крыме і тэрытарыяльнай цэласнасці Украіны.

**Расія.** Савет антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС адклаў выдзяленне Беларусі 440 млн. USD 6-га траншу крэдыта з-за невыканання 10 з 14 параметраў стабілізацыйнай праграмы.

**Грэцыя.** Краіна пачала ўпэўнена выходзіць з крызісу, эканамічная сітуацыя палепшылася, 2013 год завяршыўся перавышэннем даходаў над расходамі ў суме 1,5 млрд. еўра.

**Малдова.** Грамадзян краіны парадавала рашэнне дэпутатаў Еўрапарламента адмяніць для малдаван візы для кароткатэрміновых паездак у ЕС да 90 сутак на працягу паўгода.

**Расія.** У Дзяржлуме РФ абверглі пакуль інфармацыю аб паскоранай працэдуры выдачы расійскіх пашпартоў усім жыхарам Крыма, занепакоіліся лёсам расійскіх тэлеканалаў.

**Польшча.** У адной з гмін Падляскага ваяводства выявілі трупы хворых афрыканскай чумой дзікіх кабаноў, Беларусь адразу ж абмежавала пастаўкі польскай свініны.

**Літва.** Беларускае недзяржаўнае выдавецтва “Логвінаў” аднавіла ў краіне сваю дзейнасць, яго пазбавілі ліцэнзіі на радзіме за выпуск фотаальбома “Прэс-фота Беларусі-2011”.

**Расія.** Услед за ўзброеным захопам Крыма расійскі рынак акцый на біржы рухнуў, расійскі рубель працягваў падаць, яе эканаміка заплоціць за інтэрвенцыю вялікі кошт.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Расійскі аўтазавод КамАЗ адмовіўся ад сваіх планаў стварэння сумеснага прадпрыемства з МАЗам, Расія хоча набыць МЗКТ, “Інтэграл”, “Пеленг” і “Гродна-Азот”.

**Гомель.** Пагранічны камітэт Беларусі абверг чуткі аб закрыцці граніцы з Украінай, усе пункты пропуску працуюць у штатным рэжыме, толькі адмянілі рэйсы аўтобусаў у Кіеў.

**Мінск.** Калі ў Крыме пачнецца вайна, як заявіў палітолаг В. Карбалевіч, то дагавор аб стварэнні Еўразійскага саюза можа рухнуць, але суверэнітэт Беларусі будзе пад пагрозай.

**Брэст.** На пазачарговым сходзе акцыянеры ААТ “Дываны Брэста” вырашылі звярнуцца ў абласны Эканамічны суд з заявай аб прызнанні свайго прадпрыемства банкрутам.

**Жодзіна.** Выпуск кар’ерных грузавікоў на БелАЗе ў студзені скараціўся на 61 % і склаў 57 машын, вытворчасць збожжаўборачных камбайнаў “Гомсельмаша” ўпала да 23 штук.

**Гродна.** Урад РБ ацаніў у 400 мільёнаў долараў 25 % дзяржпакета акцый ААТ “Гродна Азот”, але інвестары наўрад ці іх купяць, бо трэба па праекце ўзвесці яшчэ там і новую вытворчасць.

**Мінск.** Міністр працы і сацабароны РБ М. Шчоткіна пацвердзіла, што вырастуць штрафы да наймальнікаў за несвоечасовыя выплаты заробкаў, летась было 3279 такіх фактаў.

**Маладзечна.** Жыхароў рэгіёна парадавала, што з 1 чэрвеня на Мінск пусцяць хуткасныя швейцарскія электрычкі бізнес-класу кампаніі Stadler з чатырма ўтульнымі вагонамі.

**Мінск.** У неверагодным аўрале пачалі будаваць пасля загаду А. Лукашэнкі будынак гатэлю “Кемпінскі” каля цырка, каб здаць зоркавы гасцінічны комплекс да 1 мая.

**Быхаў.** За перавышэнне паўнамоцтваў аблпракуратура распачала крымінальную справу супраць аднаго з кіраўнікоў раёна, які загадваў прыхаршоўваць стан спраў на вёсцы.

**Гомель.** Застрэленаму ў Кіеве актывісту Майдана 25-гадоваму М. Жызнеўскаму могуць прысвоіць званне Героя Украіны, яго родным выплацяць 1 мільён грывень (110 тысяч долараў).

**Мінск.** Убогай халупай назваў вядомы сцэнарыст і драматург А. Курэйчык рэзідэнцыю В. Януковіча ля Кіева ў параўнанні з палацам У. Пуціна за 1 млрд. долараў у Геленджыку.

**Мядзель.** Літоўская кампанія Modus Group гатова пабудаваць і весці эксплуатацыю на тэрыторыі раёна сонечнай электрастанцыі коштам 10,2 млн. еўра з геліяпанелей Літвы.

**Мінск.** У сталіцы пачалі будаўніцтва 3-й лініі метрапалітэна з чатырох новых станцый да 2017 года, да чэмпіянату свету па хакею ў маі метро набыло яшчэ 5 новых цягнікоў.

**Мінск.** Пяціразовы чэмпіён Беларусі і ўдзельнік Лігі чэмпіёнаў гандбольны клуб “Дынама” аб’явіў аб сваёй ліквідацыі з-за адсутнасці фінансавання, у спорце РБ крызіс.

## У Беларусі павялічаны падатак на здачу жылля ў арэнду




■ TUT.BY

**Студзенькімі зменамі ў Падатковы кодэкс у Беларусі былі праіндэксаваныя базавыя стаўкі падатку на прыбытак ад здачы жылля ў наём. Гэта дало права дэпутатам на месцах павялічыць канкрэтныя памеры плацяжоў для кожнага рэгіёну. Так, згодна з рашэннем Мінскага гарсавета для сталічных арэндадаўцаў гэтыя падатак з 9 сакавіка павялічаны на 26-54 % .**

Стаўкі падатку на здачу жылля ў арэнду фіксаваныя і залежаць ад катэгорыі населенага пункта або раёна.

У цэнтры Мінска ў першай эканоміка-планіровачнай зоне заўсёды дзейнічаў самы высокі падаходны падатак па краіне. Зараз у гэтым раёне здача жылля ў наём будзе каштаваць арэндадаўцам яшчэ на 65 тысяч больш, чым раней, - 200 тысяч рублёў у месяц за кожны пакой.

Падатак у другой эканоміка-планіровачнай зоне сталіцы вырас на 60 тысяч і складзе 170 тысяч рублёў у месяц.

Гаспадары кватэр у трэцяй і чацвёртай зонах павінны будуць штомесяц плаціць за кожны пакой па 140 тысяч рублёў. Для іх стаўка вырасла на 45 тысяч.

Менш за астатніх са свайго даходу ад здачы жылля будуць аддаваць гаспадары кватэр на ўскраіне, у пятай эканоміка-планіровачнай зоне. Для іх стаўка фіксаванага падатку павялічылася ўсяго на 25 тысяч – да 120 тысяч рублёў у месяц.

Рашэннем Мінскага Савета дэпутатаў стаўкі павялічаныя і для тых, хто здае ў арэнду нежылыя памяшканні. Так, здача ў наём машына-месца, металічнага ці драўлянага гаража будзе абкладацца падаткам ад 45 да 75 тысяч, жалезабетоннага або цаглянага - ад 75 да 90 тысяч рублёў у месяц у залежнасці ад раёна горада. За кожны квадратны метр плошчаў у іншых нежылых памяшканнях зараз прыйдзецца заплаціць ад 15 да 30 тысяч рублёў.

Стаўкі фіксаванага падаходнага падатку выраслі і ў рэгіёнах. У Брэсце з даходу ад здачы жылля прыйдзецца плаціць 183.000 у месяц. Па вобласці гэты паказчык знаходзіцца на ўзроўні 50-138 тысяч у залежнасці ад населенага пункта.

Плацёж ад 160 да 180 тысяч у месяц за кожны пакой, які здаецца усталяваны для арэндадаўцаў Віцебска. У іншых раёнах вобласці гэтая лічба ніжэй - ад 50 да 135 тысяч.

У Гомелі стаўкі падатку ўстаноўлены на ўзроўні 180-190 тысяч. Па вобласці - ад 70 да 140 тысяч рублёў у месяц.

Даходы арэндадаўцаў жылля ў Гродна абкладаюцца падаткам ў 183 тысячы рублёў у месяц, іншых населеных пунктаў рэгіёну - ад 60 да 130 тысяч за кожны пакой.

Чакаецца, што ў бліжэйшы час павысіць стаўкі падатку на здачу жылля ў наём павінны таксама дэпутаты Мінскай і Магілёўскай абласцей.

Дадзеныя стаўкі фіксаванага падатку дзейнічаюць толькі для фізічных асоб і не распаўсюджваюцца на даходы, атрыманыя ад прадпрымальніцкай дзейнасці па здачы нерухомасці ў арэнду.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Ушачы.** Побач з магілай маці пахавалі памерлага ў 79 гадоў народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна, апошняга з плеяды класікаў сапраўднай беларускай літаратуры.

**Віцебск.** Вобласць стала “лідарам” у краіне па даўгах у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва, калгасы і аграсервісы недаплацілі пенсіянерам ужо 211,4 млрд. рублёў.

**Гарадок.** У сталіцы прадстаячых “Дажынак-2014” пачаў працаваць новы ўчастак абутковай кампаніі “Белвест” па пашыве нарыхтовак верху абутку на станках Германіі.

**Орша.** На фабрыцы № 3 льнокамбіната па праграме мадэрнізацыі ўстанавілі 356 новых станкоў і механізмаў з Бельгіі і Кітая, на іх набыццё пайшло амаль 300 млрд. рублёў.

**Полацк.** Пасля далучэння да ААТ “Тэхналіт-Полацк” завода “Праммашрамонт” да канца 2015 года ў адным з яго дагэтуль пустуючых карпусоў адкрыюць новы ліцейны цэх.

**Докшыцы.** На тэрыторыі раёна адкрылі першае аддзяленне дзённага знаходжання для пажылых людзей, сюды адразу запісалася 37 чалавек, установа стала вельмі папулярнай.

**Дуброўна.** Прыватная фірма “Антынея прайм” аб’явіла дадатковы набор на працу швачак і раскроўшчыц адзення, на аўкцыёне яна набыла яшчэ адзін будынак для вырабу манекенаў

**Орша.** У адным з самых крыміналагенных рэгіёнаў вобласці ноччу паблізу дарогі на Дуброўна з асаблівай жорсткасцю невядомыя злачынцы забілі мясцовага таксіста.

**Віцебск.** Ад пасады начальніка ўпраўлення КДБ па Віцебскай вобласці вызвалілі палкоўніка У. Арчакова і прызначылі намеснікам дзяржсакратара Савета бяспекі Беларусі.

**Браслаў.** Днём у вёсцы Краснагорка з-за перагрэву, верагодна, дымаходнай трубы загарэўся і згарэў драўляны двухпавярховы гасцявы дом прадпрымальніка з Мінска.

**Віцебск.** Міліцыя затрымала групу злачынцаў-бухгалтараў абласнога цэнтра псіхіятрыі і наркалогіі, якія больш 3-х гадоў налічвалі сабе павышаную зарплату, скралі 0,5 млрд. руб.

**Лепель.** Больш 700 тысяч USD зарабіў мясцовы дзіцячы рэабілітацыйна-аздараўленчы цэнтр “Жамчужына” за год ад продажу пуцёвак на адпачынак расійскім дзецям.

**Віцебск.** Траіх грамадзян ва ўзросце 23, 29 і 31 гадоў затрымала расійская паліцыя ў Маскоўскай вобласці, яны прыехалі сюды на заробкі і бітамі забілі яшчэ 2-х беларусаў.

**Расоны.** Знакаміты фестываль сельскага турызму “Заборскі фэст” зноў уключылі ў план важнейшых рэспубліканскіх мерапрыемстваў па агратурызму, у вобласці 449 такіх сядзіб.

**Мёры.** За двух незаконна застрэленых касуль суд адправіў у турму на 1,5 года раней судзімага браканьера, двое яго падзельнікаў атрымалі штрафы па 26 і 32,5 млн. рублёў.

*Служба інфармацыі “ВГ”.*

Ул. Скрабатун

# “Вы нашы самыя цудоўныя на свеце”

У Глыбоцкай СШ №3 штораз ладзяцца розныя тэматычныя вечарыны. Напярэдадні 8 сакавіка адбылася традыцыйная вечарына, прысвечаная жанчыне, жанчыне маці – найперш. Яе арганізавала класны кіраўнік 8-А класа Галіна Іосіфаўна Гігола. Зразумела, пры дапамозе Данаты Мар’янаўны Сярогінай, выкладчыка рускай мовы і літаратуры, якая нядаўна пайшла на пенсію, але ўсё яшчэ наведвае школу, дапамагае пісаць сцэнары такіх мерапрыемстваў, а ў гэтым Даната Мар’янаўна мае вялікі досвед.

– ***Дарагія мамы, бабулі, таты і госці нашага святочнага вечара! “Вы самыя цудоўныя на свеце...” з імя маці звязаны самыя светлыя старонкі нашай біяграфіі,*** – такімі словамі вядоўцы адкрылася мерапрыемства.

Ужо стала добрай завядзёнкай, што на гэтае мерапрыемства заўсёды запрашаюцца святары двух асноўных канфесіяў горада – каталіцкай і праваслаўнай. І заўсёды ім даецца першае слова. Ксёндз Вячаслаў Пялінак і праваслаўны святар Сергій Грамыка адгукнуліся на запрашэнне і завіталі на святочную вечарыну.

Яны звярнулі ўвагу на каштоўнасць моцнай, паўнавартаснай сям’і ў выхаванні сваіх дзяцей, аб ролі таты і маці, бабулі. Самой прыродай, духоўнасцю нашага народа маці адведзеная выключная роля ў выхаванні маладога пакалення.

Шчаслівытой, хто з дзяцінства адчувае мацярынскую пяшчоту, клопат. А дзеці мусяць адказваць ёй тым жа – любоўю, увагай, клопатам. З пашанай і ўдзячнасцю мы адносімся да людзей, якія да сівых валасоў паважна вымаўляюць імя маці, засцерагаюць яе старасць, дараць пакой і радасць.

Натуральна, бацькам цікавыя не толькі ўзровень і якасць ведаў, якія іх дзеці атрымліваюць у роднай школе, але і як яны сталеюць, развіваюцца рознабакова. І дзеці гэта разумеюць, таму і падрыхтавалі для сваіх матуль і бабуль цудоўны канцэрт. Са сцэны гучалі вершы нашага глыбоцкага паэта в.п. Віталя Гарановіча, які быў яшчэ не так даўно дырэктарам Глыбоцкай СШ №3, які стаўся вельмі паважаным педагогам у ранейшых выпускнікоў школы і іх бацькоў. У вершах – словы любові да радзімы, маці, сям’і. Ва ўнісон з вершамі Віталя Гарановіча гучалі і вершы іншага глыбоцкага паэта Алеся Жыгунова.

Дэкламаванне вершаў штораз змянялася вясёлымі танцамі, а вакальна інструментальны гурт з васьмі дзяўчат, дзе трое з іх гітарысты, парадаваў бацькоў і прысутных задушэўнымі песнямі.

Мерапрыемства скончылася на сцэне агульным здымкам на памяць усіх прысутных: бацькоў, бабуляў, школьнікаў і настаўнікаў.



Выступленне мастацкай самадзейнасці школьнікаў.



Святары Вячаслаў Пялінак (злева) і Сергій Грамыка.



Бацькі і дзеці разам. Здымак з вечарыны на памяць.

## На ферме ў Шаркоўшчынскім раёне згарэлі 30 цялятаў

**Па інфармацыі МНС, пажар здарыўся 10 сакавіка каля 17 гадзіны на ферме ААТ «Даватарскі» ў вёсцы Пялікі. На ферме было 30 цялятаў і 184 каровы.**

Калі прыехалі выратавальнікі, гарэла прыбудова, на ёй абваліўся дах, а дым трапіў непасрэдна ў быдлянік з каровамі.

30 цялятаў, што знаходзіліся ў прыбудове, згарэлі. Пасля агляду кароў ветэрынарам, 137 галоў адправілі на забой.

Разглядаюцца дзве версіі здарэння: неасцярожнае абыходжанне з агнём нявысветленай асобы альбо кароткае замыканне электраправодкі.



## Базавая арэндная велічыня можа павялічыцца 1 красавіка да 102 тыс. рублёў

**Базавая арэндная велічыня ў Беларусі можа павялічыцца 1 красавіка з 86 да 102 тыс. рублёў, або на 18,6%. Пра гэта БелаПАН паведамілі ў Дзяржкаммаёмасці.**

Паводле слоў прадстаўніка ведамства, распрацаваны праект рашэння Савета міністраў, які прайшоў усе ўзгадненні і знаходзіцца зараз на разглядзе ва ўрадзе.

Памер базавай арэнднай стаўкі ўстанаўліваецца штогод 1 красавіка з улікам змянення індэкса спажывецкіх цэн за папярэдні год. Летась базавая арэндная велічыня павысілася на 60% да 86 тыс. рублёў.

Базавая арэндная велічыня ўстанаўліваецца ў адпаведнасці з указам ад 29 сакавіка 2012 года № 150 “Аб некаторых пытаннях арэнды і бязвыплатнага карыстання маёмасцю”.

***Марына Носава, БелаПАН.***

Аляксей Протас,
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

# Набывайце сок напроста ў нарыхтоўшчыкаў

**Наступіла вясна, хутка пачнецца сезон нарыхтоўкі драўняных сокаў і насельніцтву неабходна ведаць парадак і правілы іх нарыхтоўкі.**

Паводле пункта 2 Правілаў нарыхтоўкі другарадных лясных рэсурсаў і ажыццяўлення пабочнага лесакарыстання, зацверджаных пастановай Міністэрства лясной гаспадаркі Рэспублікі Беларусь ад 20.03.2001 года №37/36: “Юрыдычныя асобы і грамадзяне павінны ажыццяўляць нарыхтоўку драўняных сокаў на землях ляснога фонду ў адпаведнасці з Правіламі нарыхтоўкі другарадных лясных рэсурсаў і ажыццяўлення пабочнага лесакарыстання.

Грамадзянам падаецца магчымасць вольнай нарыхтоўкі драўняных сокаў толькі на адмыслова адведзеных для падсочкі ўчастках ляснога фонду, з выкананнем тэхналогіі падсочкі, а таксама магчымасць набыцця нарыхтаванага соку ў структурных падраздзяленнях юрыдычных асоб, якія вядуць лясную гаспадарку (лясгасы). У астатніх месцах на землях ляснога фонду нарыхтоўка драўняных сокаў забараняецца.

У адпаведнасці з пунктамі 12-13 Правілаў, нарыхтоўка драўняных сокаў забараняецца:

– у прыбярэжных палосах рэк, азёр, вадасховішчаў і іншых водных аб’ектаў, у межах палос адводу жалезных і аўтамабільных дарог, іншых транспартных і камунікацыйных ліній ;

– у населеных пунктах;

– у дэндралагічных парках, батанічных садах;

– у месцах рассялення і вырастання дзікіх жывёл і дзікарослых раслін, аднесеных да відаў, уключаных у Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь;

– у межах акруг і зон санітарнай аховы курортаў;

– у месцах масавага адпачынку грамадзян, паркі, скверы, і г.д.

– у межах гісторыка-культурных запаведнікаў, мемарыяльных паркаў, археалагічных помнікаў ;

Пры нарыхтоўцы соку на тэрыторыі, дзе гэта забаронена, або без дазваленчага дакумента, калі яго атрыманне абавязковае, ці не ў адпаведнасці з ім, прадугледжана адміністрацыйная адказнасць у адпаведнасці з ч. арт. 15.26 Ко АП Рэспублікі Беларусь – цягне накладанне штрафу ў памеры да 20 базавых велічынь. Нароўні з выплатай штрафу, вінаватыя абавязаны пакрыць шкоду, прычыненую навакольнаму асяроддзю пашкоджаннем дрэў, па таксах, зацверджаных Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 24.07.2008 года № 348 “Пра таксы для вызначэння памеру пакрыцця шкоды, прычыненага навакольнаму асяроддзю”. Пры немагчымасці канфіскацыі незаконна нарыхтаванага драўнянага соку ў юрыдычных і фізічных асоб спаганяецца яго кошт паводле таксаў, зацверджаных Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 20.07.2001 года № 1073 “Пра спагнанне кошту незаконна здабытай драўніны і іншай лясной прадукцыі пры немагчымасці іх канфіскацыі ў юрыдычных і фізічных асоб”.

Пра месцы, дзе дазволена нарыхтоўка бярозавага соку, Вы можаце даведацца ў лясніцтвах па месцы жыхарства або ў мясцовым лягасе.

ГЛХУ “Пастаўскі лягас” і “Глыбоцкі доследны лягас” у вясновы перыяд актыўна займаецца нарыхтоўкай і рэалізацыяй бярозавага соку насельніцтву, кошты на сок вельмі даступныя, а таму міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і раслiннага свету рэкамендуе грамадзянам набываць сок напроста ў нарыхтоўшчыкаў, а не займацца саманарыхтоўкай. Тады Вы надзейна пазбегнеце ўсіх непрыемнасцяў, а набыты ў афіцыйных нарыхтоўшчыкаў сок даставіць Вам радасць.

Па ўсіх пытаннях нарыхтоўкі драўняных сокаў можна звярнуцца ў лясніцтва па месцы жыхарства, лягас або ў Глыбоцкую міжрайінспекцыю па тэлефонах: 8-02156- 2-86-70, маб.: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.

**Нэля Баравік,**
*дырэктар Дзяржархіва ў г. Глыбокае.*

# На варце правапарадку

## З гісторыі Дзісненскай павятовай паліцыі (люты - лістапад 1918 г.), Дзісненскай павятовай міліцыі (1918-1919 гг.)

З 18 лютага 1918 г. пачаўся наступ нямецкіх войскаў на тэрыторыю Беларусі і неўзабаве Дзісненскі павет быў акупаваны. Тут германскія акупацыйныя войскі ўвялі памешчыцкае землеўладанне, нерэгламентаваны працоўны дзень, ігнаравалі правы і свабоды мясцовага насельніцтва, вывозілі ў Нямеччыну сельгаспрадукты і матэрыяльныя каштоўнасці.

Па Брэсцкай мірнай дамове, падпісанай 3 сакавіка 1918 г., ад Расіі адрыньваліся Польшча, Прыбалтыка, частка Беларусі (у т. л. Дзісненскі павет).

На месцах немцамі ствараліся мясцовыя органы ўлады і кіравання. У Дзісненскім павеце была ўтворана павятовая паліцыя, начальнік якой у сваёй дзейнасці падпарадкоўваўся Дзісненскаму павятоваму германскаму ўпраўленню, каменданту г. Дзісна Біртэлю.

У абавязкі паліцыі ўваходзіла падаўленне праяў бальшавізма; ахова службоўцаў, якія перавозілі буйныя грашовыя сумы; вышук тых, хто ўхіляецца ад збору падаткаў, вопіс іх маёмасці; процідзеянне здзяйсненню крадзяжоў, рабаванняў.

Дзісненскі павет быў падзелены на паліцэйскія ўчасткі: 1-й -Друйскі; 2-й - Шаркаўшчызненскі; 3-й - Пастаўскі; 4-й - Глыбоцкі; 5-й - Лужэцкі.

Паліцэйскі ўчастак складаўся з начальніка, вахмайстраў (4 чал.), конных вартаўнікоў (4 чал.), пешых вартаўнікоў (4 чал.). Акрамя гэтага ў кожнай воласці выбіраўся валасны старшыня, які адказваў за правапарадак на тэрыторыі воласці.

Начальнікам паліцыі ў м. Глыбокае быў Іван Максімовіч. Грашовае забеспячэнне начальніка паліцэйскага ўчастку складала 1590 руб., у т. л. на ўтрыманне арыштанскага дома – 500 руб., канцылярскія выдаткі – 550, на ўтрыманне каня і рыштунку – 40 руб. Зарплата вахмайстра складала 340 руб., конных вартаўнікоў – 290 руб., пешых вартаўнікоў – 200 руб.

Пасля рэвалюцыі ў Нямеччыне, якая адбылася ў лістападзе 1918 г., РСФСР разарвала Брэсцкую дамову і вярнула вялікую частку згубленых па ёй земляў. Нямецкія войскі пакінулі тэрыторыю Дзісненскага павету 22.11.1918, Дзісненская павятовая паліцыя была скасаваная.

Пасля ўсталявання савецкай улады на вызваленай тэрыторыі, у склад Дзісненскага павету Віленскай губерні ўваходзілі наступныя воласці: Богінская, Вярхнянская, Германавіцкая, Глыбоцкая, Друйская, Залеская, Ёдская, Пастаўская (Ленінская), Лявонпальская, Лужэцкая, Луцкая, Мёрская, Мікалаеўская, Нова-Пагосцкая, Перабродская, Пліская, Празароцкая, Стэфанпольская, Чэраская, Чарневіцкая, Язненская.

Датай утварэння Дзісненскай павятовай міліцыі, а таксама і Глыбоцкай міліцыі, можна лічыць 17 снежня 1918 г., калі на паседжанні Дзісненскага выканкама, абмяркоўваючы колькасць рабаванняў і забойстваў, якая пачасцілася, вырашылі: *«… неадкладна арганізаваць павятовую міліцыю, прычым на пасаду начальніка павятовай міліцыі прызначыць Сцяпана Аляксеевіча Валынца і памочнікам начальніка Якава Аляксандравіча Хасяновіча; участковым начальнікам міліцыі 1 участка (м. Глыбокае) Івана Іванавіча Храла, з тым, каб ён прадставіў пасведчанне валаснога Савдэпа па добранадзейнасць».*




**Нагрудны жэтон павятовай міліцыі.**

Дзісненскую гарадскую міліцыю са снежня 1918 г. узначаліў Харэвіч Франц Яфімавіч. Трэба адзначыць, што на той момант уступлення на пасаду С. Валынцу споўнілася 28 гадоў, а Ф. Харэвічу ўсяго 29 гадоў.

**Датай утварэння Дзісненскай павятовай міліцыі, а таксама і Глыбоцкай міліцыі, можна лічыць 17 снежня 1918 г.**

Дзісненскі павет быў падзелены на 4 міліцэйскія раёны і адзін раён у г. Дзісна.

**1-ы раён** знаходзіўся ў м. Глыбокае. У яго склад уваходзілі Глыбоцкая, Залеская, Пліская, Лужэцкая і Вярхнянская воласці. Абслугоўвалі гэтыя воласці 5 старэйшых конных міліцыянераў, 8 старэйшых пешых, 15 малодшых пешых.

**2-і раён** знаходзіўся ў м. Шаркаўшчызна і ўключаў у сябе Шаркаўшчызненскую, Луцкую, Пастаўскую, Богінскую, Ёдскую воласці. Састаў міліцыі – 5 старэйшых конных міліцыянераў, 7 старэйшых пешых, 15 малодшых пешых.

**3-і раён** знаходзіўся ў м. Мёры (Мёрская, Лявонпальская, Чэраская, Нова-Пагосцкая і Мікалаеўская воласці).Штатміліцыянераў: 5 старэйшых конных, 7 старэйшых пешых, 15 малодшых пешых міліцыянераў.

**4-ы міліцэйскі раён** знаходзіўся ў м. Блошнікі. У яго склад уваходзілі Празароцкая, Германавіцкая, Стэфанпольская, Чарневіцкая і Язненская воласці. Абслугоўвалі гэтыя воласці 5 старэйшых конных, 7 старэйшых пешых, 12 малодшых пешых міліцыянераў.

Правапарадак у г. Дзісне забяспечвалі першапачаткова 12 міліцыянераў. Затым штат гарадской міліцыі павялічыўся да 25 чалавек: начальнік міліцыі, 2 памочнікі начальніка, 2 старэйшых і 20 малодшых міліцыянераў.

З 27 лютага 1919 г. Дзісненскі павет Віленскай губерні ўвайшоў у склад утворанай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Літвы і Беларусі (Літбел) са сталіцай у Вільні.

У адпаведнасці з пастановай калегіі Камісарыята па ўнутраных справах Літбела ў сакавіку 1919 г. міліцыя перайменавана ў рабоча-сялянскую ахову, слова «міліцыянер» замянялася на «дружыннік рабоча-сялянскай аховы».

Адсутнасць сродкаў на выплату жалавання міліцыянерам г. Дзісны са студзеня 1919 г. заахвоціла Дзісненскі выканкам у сакавіку 1919 г. зрабіць запыт у Мінск пра крыніцы ўтрымання гарадской міліцыі. Адказам стала скасаванне гарадской міліцыі з красавіка 1919 г., яе абавязкі былі ўскладзены на павятовую рабоча-сялянскую ахову, якую ўзначаліў Ф. Харэвіч.

З 7 красавіка 1919 г. начальнікам Глыбоцкай рабоча-сялянскай аховы стаў Фёдар Васільевіч Аляксандраў.

Кожны, які ўступаў у шэрагі служыцеляў закона, даваў падпіску пра тое, што ён абавязваецца праслужыць у рабоча-сялянскай ахове не меней за 6 месяцаў, няўхільна сачыць за ажыццяўленнем дэкрэтаў, пастаноў савецкай улады, бязлітасна душыць усе антысавецкія выступы.

У сувязі з пачаткам савецка-польскай вайны і набліжэннем польскіх войскаў да Вільні ў валасцях Дзісненскага павету з вясны 1919 г. было абвешчана ваеннае становішча. Для папярэджання контррэвалюцыйных выступаў з 25 красавіка 1919 г. утвораны Дзісненскі ваенна-рэвалюцыйны камітэт, да якога перайшла ўся ўлада ў павеце.

Вайскоўцам прыйшлося прымаць актыўныя меры па барацьбе з бандытызмам, паўстанцтвам. Тым часам у Дзісненскім павеце пачасціліся паўстанні грамадзян на рэлігійнай глебе па выпадку выдалення абразоў з вучэльняў (у Лужэцкай, Празароцкай і Глыбоцкай валасцях); з-за керанскіх грошай (у м. Глыбокае 27 сакавіка 1919 г.); 11 красавіка 1919 г. у лесе Нова-Пагосцкай воласці арганізавана засада на чырвонаармейцаў і адняты рэквізаваны ў кулакоў хлеб; у чэрвені 1919 г. у Пліскай воласці «зялёныя» ўчынілі пагром у в. Ханякова; у Мёрах абстраляны будынак валваенкама; у Шаркоўшчыне 15.06.1919 арыштаваны ваенны камісар і начальнік пошты, былі знішчаны ўліковыя дакументы камісарыята, аднятыя вінтоўкі, ровары, хлеб, якія былі сабраныя для адпраўкі для патрэб Чырвонай Арміі; 30.06.1919 загадчык харчовым аддзелам Лявонпальскага валвыканкама Пётр Бычынскі з 2-мя грамадзянамі воласці І. Кіслым і О. Нямірам, атрымаўшы ў г. Дзісна 18 пудоў солі, 3 пуды гронак, грошы і інш. тавары, па шляху дахаты былі забітыя невядомымі, коні і маёмасць выкрадзеныя.

Недахоп лікавага складу міліцыянераў, некамплект зброі не дазвалялі выкараніць спекуляцыю, рабаванні, якія тут квітнелі.

Востра адчуваўся недахоп дасведчаных кадраў, якія б маглі самастойна выканаць ускладзеную на іх працу. На службу часам прыходзілі «не чыстыя на руку» людзі. Так, Ленінскі валасны Савдэп звярнуўся ў Дзісненскі павятовы выканкам пра адкліканне начальніка міліцыі І. Парадніка ў сувязі з перавышэннем сваіх паўнамоцтваў, не падначаленню мясцовым уладам, у снежні 1918 г. з кожнай фурманкі, якая прыязджае ў м. Паставы браў па 25 кап., распаўсюджваючы меркаванне пра тое, што гэта ўведзена валасным выканкамам і тым самым выклікаючы незадаволенасць людзей. У студзені 1919 г. І. Параднік адхілены і аддаены суду.

Мелі месца выпадкі, калі міліцыянеры, ведучы назіранне за ўвозам і вывазам прадуктаў, пад выглядам спекулянтаў затрымоўвалі невінаватых людзей, забіралі рэчы, грошы, прадукты. У лютым 1919 г. у Друйскай воласці такому нападу падвергся грамадзянін в. Вераб'ёва Станіслаў Яцына. Пасля затрымання міліцыянераў, абвінавачаныя былі змешчаныя ў Дзісненскую турму, справа перададзеная з Дзісненскую следчую камісію.

Дзісненскі павет у жніўні 1919 г. з праверкай наведаў рэвізор галоўнага ўпраўлення міліцыі Літбела Мікалай Земіт. Вось як ён ацаніў убачанае: *«… Пасты не нясуцца, па-першае, за адсутнасцю людзей, бо вольныя ад нарадаў міліцыянеры абслугоўваюць і падаюць каменданту горада фурманкі для чырвонаармейскіх частак, па-другое, гарнізон Дзісны абслугоўвае горад: нясе яго ахову і г. д., не набраны поўны штат міліцыянераў, г. зн. не хапае 1/3 да поўнага саставу, але гэта тлумачыцца тым, што ў наш час цяжка ўяўляецца набраць людзей, гэтаму з'яўляецца маса чыннікаў. Міліцыянеры, службоўцы зараз, у наш час у міліцыі, уяўляюць сабою элемент які цалкам не адкрыў сваю фізіяномію, як па службе, так і ў палітычных адносінах. У міліцыі з дня яе заснавання няма калектыву. Уся міліцыя беспартыйная і не ўяўляецца ёй магчымасць зблізіцца і пазнаёміцца з праграмай партыі. Пячаткі ў Дзісненскай міліцыі дагэтуль не маецца. Няма з заснавання міліцыі кнігі загадаў, так што не ўяўляецца магчымасці праверыць прыём службоўцаў і наогул вызначыць адміністрацыйную дзейнасцьміліцыі. Зусім няма анкетных лістоў, так што міліцыянеры і службоўцы не рэгістраваныя. Нявыкананых папер налічваецца каля 70».* Такое становішча спраў не магло не выклікаць абурэння правяральнага, рушыла ўслед рашэнне пра звальненне начальніка міліцыі.

З 15.08.1919 Дзісненская турма скасаваная, бо сталі частымі масавыя ўцёкі зняволеных. Тых, хто адбываў пакаранне, перавялі ў Смаленскі выпраўленчы дом № 1, а службоўцам турмы прапанавалі перайсці на працу ў Бабруйскі выпраўленчы дом.

У сувязі з акупацыяй польскімі войскамі Дзісненскага павету (у т.л. Глыбоцкай воласці), якая працягвалася са жніўня 1919 г. па чэрвень 1920 г., павятовая міліцыя са жніўня 1919 г. ліквідаваная.



